Пралетары ўсіх краёў, злучайц

# БЕЛАРУСКІ БАНК

## КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ І ЖЫЛІШЧНАГА БУДАЎНІЦТ

# СПРАВАЗДАЧА

## за 1928-29 год

## чацьверты справаздачны пэрыяд

(з 1-га кастрычніка 1928 г. па 1-е кастрычніка 1929 г.)

МЕНСК
1929

**БЕЛАРУСКІ БАНК**
**КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ І ЖЫЛІШЧНАГА БУДАЎНІЦТВА**



# СПРАВАЗДАЧА

**за 1928-29 год**

## ЧАЦЬВЕРТЫ СПРАВАЗДАЧНЫ ПЭРЫЯД

**(з 1-га кастрычніка 1928 г. па 1-е кастрычніка 1929 г.)**



**Праўленьне ў г. Менску, рог Ленінскай і Карла Маркса № 36/43.**

ФІЛІАЛЫ БАНКУ:

у Віцебску адчыніў сваю дзейнасьць 14-га лютага 1926 г. (зачынено 1-га кастрычніка 1929 г.)

у Бабруйску адчыніў сваю дзейнасьць 20-га чэрвеня 1929 г.

1929

# БЕЛАРУСКІ БАНК
## КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ І ЖЫЛІШЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

### САВЕТ БАНКУ:

Старшыня Савету *Карп С. В.*
Нам. Старшыні Савету *Бенек К. Ф.*
Члены Савету: *Амбражунас*
*Володзько*
*Ершоў І. В.*
*Каплан Л. Б.*
*Кроль Е. М.*
*Мікуліч В. Д.*
*Меркулаў Е. С.*
*Малашонак*
*Рачыцкі*
*Сьцепанюк А. Е.*
*Чэрнушэвіч Д. Ф.*
*Яцкевіч П. Б.*

### ПРАЎЛЕНЬНЕ БАНКУ:

Старшыня Праўленьня *Васкабойнікаў М. Я.*
Нам. Старшыні *Топаз Д. З.*
Член Праўленьня *Левін А. А.*
Кандыд. у Члены Праўленьня *Гальперын А. Д.*
Галоўны бухгальтар *Коган І. М.*

### РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ БАНКУ:

Старшыня камісіі *Крывіцкі В. І.*
Члены камісіі: *Кавалёў*
*Касько*

# ДАКЛАД

## Праўленьня Беларускага Банку Камунальнае Гаспадаркі і Жылішчнага Будаўніцтва

## ЧАЦЬВЕРТАМУ ЧАРГОВАМУ АГУЛЬНАМУ СХОДУ АКЦЫЯНЭРАУ

### Агульныя палажэньні

Пры ўступленьні ў чацьвёрты 1928/29 год дзейнасьці Банку Праўленьне у ліку пастаўленых сабе задач, намеціла, не паслабляючы сваей увагі ў адносіне расшырэньня і паглыбленьня мэтавых пазычковых апэрацый, як грунтоўнай мэты Банку, разам з гэтым увясьці ў кола сваей дзейнасьці шырокае абслугоўваньне касавых патрабаваньняў кліентуры. Гэтым мелася на ўвазе, акрамя мяркаваньняў агульна-фінансавага сваяцтва, прадаставіць кліентуры шляхам увядзеньня ў жыцьцё жыра-абаротаў, найлепшы спосаб узаемаразрахункаў паміж сабой і магчымасьць скараціць выдаткі па ўтрыманьню ўласных касавых апаратаў.

Мэта гэтага агляду прасачыць наколькі імкненьне Праўленьня ў абодвых напрамках мелі посьпех.

### Разрахуначна-касавыя апэрацыі.

Прамым вынікам разьвіцьця разрахуначна-касавых апэрацый зьявіўся надзвычайны рост агульнага звароту, дасягнуўшы за справаздачный год 356,726 тыс. руб., замест 174,698 тыс. руб., мінулага году. Павялічэньне звароту выразілася ў 182,028 тыс. руб., альбо 104 %.

Паказальнікам таго, што рост звароту ў пераважнай частцы выклікан разьвіцьцём гэтага, імена, характ. апэрацый, служыць тое, што з агульнай сумы росту на ніжэй пералічаныя разрахуначныя рахункі, у якіх знаходзяць свой адбітак касава-разрахуначнае абслугоўваньне кліентуры, падае 136203 тыс. рублёў.

| Абарот па рахунках | За 1928-29 г. | За 1927-28 г. | Сума росту ў тысячах рублёў |
|---|---|---|---|
| Каса . . . . | 39725,0 | 22391,4 | 17333,6 |
| Разрахуначны Аддзел . | 49264,6 | 20590,4 | 28674,2 |
| Бяг. рах. ў крэд. установах | 31057,6 | 10277,5 | 20780,1 |
| Бяг. рахункі і ўклады . | 80372 5 | 35071,3 | 45301,2 |
| Бяг. рахун. мясцов. бюджэту | 13602,5 | — | 360[illegible],5 |
| Карэспадэнты . . . | 25722,1 | 15209,9 | 10512,2 |
| | | | 136203,8 |

### Касавае абслугоўваньне мясцовых бюджэтаў.

Цэнтральнае мейсца сярод апэрацый касава-разрахуначнага характару павінна было заняць прынятае на сябе Банкам касавае абслугоўваньне мясцовага бюджэту па Менскай і Віцебскай акругам. Тут ужо, паміма прычын, памянёных вышэй, мелась мэта ўцягненьня ў банкаўскі зварот намнажэньня сродкаў для часовага іх скарыстаньня. Такое імкненьне было зусім натуральна, калі прыняць пад увагу, што абслугоўваньне мясцовага бюджэту зьвязана з значнымі выдаткамі, якія павінны былі быць апраўданы камерцыйным разрахункам. Вынікі гэтае апэрацыі аказаліся не аднолькавымі для абедзьвух акруг. У той час, як па Віцебскай акрузе мы маем сярэдня гадавую суму асяданьня сродкаў у звароце Банку ў 211,3 тыс, рублёў, па Менскай акрузе гэта сума выражаецца толькі ў 11,8 тыс. рублёў. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў падмацаваньне бюджэту па Менскай акрузе пры разрыве яго касавага выконваньня паміж прыбытковай і выдатковай часткай прадстаў-

лялася неабходнасьць не раз адпушчаць часова зваротныя сродкі Банку, складаючыя сярэдне гадавую лічбу 39.1 тыс. рублёў. Такім чынам, мы па адной з пастаўленых сабе мэт у адносіне касавага абслугоўваньня мясцовага бюджэту па Менскай акрузе, а імена—асяданьне сродкаў у звароце Банку не атрымалі патрэбных вынікаў.

## Рост балянсу.

Агульнае разьвіцьцё апэрацыйнай дзейнасьці Банку за справаздачны перыяд характэрызуецца узростам балянсу, які дасягае на 1-га кастрычніка 1929 году 29077 тыс. руб., замест 19113,7 тыс. руб на адпаведную дату мінулага году. Павялічэньне выразілася ў 9963,3 тыс. руб., альбо 52% З агульнай сумы ўзросту балянс доўгатэрміновых крэдытаў прымае на сябе 5885,9 тыс. руб., альбо 58,6%, а на балянс кароткатэрміновы падае 4077,4 тыс. руб. альбо 41,4%. Пры гэтым мы наглядаем зусім раўнамернае разьвіцьцё абодвых балянсаў, захоўваючых сваю ўдзельную вагу ў агульным балянсу ў стабільным становішчы.

| | Агульны балянс | У ТЫМ ЛІКУ ПА: | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | доўгатэрм. крэдыт. | | кароткатэр. крэдыт. | |
| | | сума | % адн | сума | % адн |
| На 1 X—1928 г. | 19113,7 | 11147,0 | 58,3 | 7966,7 | 41,7 |
| На 1-X—1929 г. | 29077,0 | 17032,9 | 58,6 | 12044,1 | 41,4 |
| Рост балянса . | 9963,3 | 5885,9 | 59 | 4077,4 | 41 |
| | 52,1% | 52,8% | — | 51,2% | — |

## Доўгатэрміновае крэдытаваньне.

Паслабленьне тэмпу росту па доўгатэрміноваму балянсу ў параўнаньні з мінулым годам (63%) тлумачыцца праведзянай у справаздачным годзе пастановай ЭКАНА кансалідацыяй запазычнасьці пазычнікаў па рэспубліканскаму і акруговым прамфондам, пацягнуўшай за сабой выняцьце з балянсу 886,5 тыс. рублёў.

Рост доўгатэрміновых апэрацый утвараецца за рахунак прыросту сродкаў з наступных крыніц:

| | | |
|---|---|---|
| Па рэспубліканскаму жылфонду | Руб. 135,6 | тыс. |
| „ ФПБР-у (прадпрыемств. ВСНГ) | „ 164,8 | „ |
| „ акруговым жылфондам . . . | „ 378,2 | „ |
| „ рэспубліканск. прамфонду . . | „ 181,0 | „ |
| „ акруговым прамфондам . . . | „ 842,9 | „ |
| „ бюджэтным ассыгнаваньням . . | „ 1387,7 | „ |
| „ сродкам Цекамбанку . . . . | „ 1695,4 | „ |
| „ уласным сродкам Банку . . . | „ 614,2 | „ |

У адпаведнасьці з мэтавым назначэньнем і плянавым разьмяркаваньнем сродкі накіраваны:

| | | |
|---|---|---|
| На жылбудаўніцтва . . . . . | Руб. 2320,9 | тыс. |
| „ электраўстаноўкі . . . . . | „ 1154,4 | „ |
| „ каналізацыю . . . . . . | „ 299.7 | „ |
| „ мясцовую прамысмовасьць . | „ 1382,3 | „ |

Доўгатэрміновыя крэдыты адпушчаліся з строгім захаваньнем плянавых намётак, як у адносіне мэтавага назначэньня, гэтак і каляндарнага разьмяркаваньня. У прыватнасьці па жылбудаўніцтву фінансаваньня вытваралася штомесячнымі выдачамі з вучотам сэзонных запатрэбаваньняў. Для пасьпяховага правядзеньня будаўнічай кампаніі банкам адпушчаны былі яшчэ ў лістападзе 1928 году арганізацыям, прымаючым удзел у пляне будаўніцтва 1928/29 г., авансы на сваечасовую нарыхтоўку будаўнічых матар'ялаў у суме 300 тыс. рублёў.

У гэтых жа мэтах уведзян новы від доўгатэрміновага крэдыту на пашырэньне вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў. Па гэтаму віду крэдыту, праведзянаму ў не плянавым парадку, адпушчана 235 тысяч рублёў.

З некаторымі цяжкасьцямі мы сустрэкаліся ў адносіне выкананьня пляну фінансаваньня жылбудаўніцтва з рэспубліканскага і акруговых жыльлёвых фондаў.

У гэтыя фонды сродкі паступалі не заўсёды сваечасова і ў меншых супроць пляну разьмерах. У інтэрэсах забясьпячэньня нармальнага ходу будаўніцтва, Праўленьне і ў гэтакіх выпадках выходзіла з цяжкасьцяў шляхам водпуску авансаў з уласных сродкаў Банку.

Агульная сума ўлажэньняў у мэтавае доўгатэрміновае крэдытаваньне на 1-ае кастрычніка 1929 году выражаецца ў суме 16818,2 тыс. руб., якая разьмяркоўваецца па наступным мэтавым прызначэньням.

| | |
|---|---|
| На жыльлёвае будаўніцтва . . . | Руб. 7763,0 |
| „ вадаправод . . . . . . . | „ 203,2 |
| „ каналізацыю . . . . . . . | „ 999,7 |
| „ трамвай . . . . . . . . | „ 50,0 |
| „ электрыфікацыю . . . . . . | „ 3302,5 |
| „ мясцовую прамысловасьць . . | „ 4499,8 |
| | 16818,2 |

Доўгатэрміновае крэдытаваньне, як і наогул мэтавы крэдыт, займаюць усё больш і больш значнае мейсца, як у абсалютных лічбах, так і ў адносным сваём значэньні і пагэтаму гэта галіна дзейнасьці Банку прыкоўвае да сябе ўсё большую ўвагу Праўленьня. Для пасьпяховага правядзеньня ў жыцьцё апошніх пастаноў Ураду, якія датычаць-

ца згрупаваньня ў сыстэме камунальных банкаў зьбіраньня і разьмяркаваньне сродкаў, прызначаных на доўгатэрміновае крэдытаваньне жылбудаўніцтва і мясцовай прамысловасьці і для ўзмацненьня сувязі паміж крэдытаваньнем прамысловасьці мясцовага і саюзнага значэньня, патрабуецца зьмена арганізацыйных форм абслугоўваючага апарату.

У гэтым напрамку намі зроблен далейшы крок. Па дасягнутай з Прамбанкам згодзе існаваўшы пры Банку апарат БДК разфарміраван з перадачай яго функцый у апарат н/Банку. Такім чынам мы дасягаем аб'яднанага кіраўніцтва справай фінансаваньня абедзьвух галін прамысловасьці, што ўнёсла чоткасьць у работу і акрамя таго, павінна значна скараціць выдаткі.

У узаемаадносінах з Цэкамбанкам па дэцэнтралізаваным крэдытам мы можам канстантаваць поўную налажанасьць. Непасрэдная сувязь з запазычнікамі значна спрашчае процэдуру прахадженьня крэдытаў, палягчае запазычніку атрыманьне сродкаў і вытварэньне разрахункаў. Тая акалічнасць што Цэкамбанк знаходзіць перавагу ў тым каб перадаваць у дэцэнтралізаваным парадку на наш балянс і тыя пазыкі, якія выдаваліся ім у свой час непасрэдна, лішні раз пераконвае нас у пераважнасьці такога спосабу перадачы сродкаў на мейсца для самаго Цэкамбанку.

Удзел уласных сродкаў Банку ў доўгатэрміновым крэдытаваньні ўзрасло на 614,2 тыс. руб. і складае на 1 кастрычніка 1929 г. 1403,4 тыс. руб. далучыўшы да гэтае сумы 1088,9 тыс. руб., зьмяшчоных у акцыях крэдытных устаноў нашай сыстэмы ў будаўнічых арганізацыях, сума асеўшых сродкаў у доўгатэрміновых апэрацыях выявіцца ў 2492,3 тыс. руб., што складае 91,1 % аснаўнога капіталу Банку.

## Аснаўны капітал і ўласныя сродкі Банку

Узмацненьне доўгатэрміновых апэрацый уласнымі сродкамі ў такой значнай суме, як 941,3 тыс. руб., з якіх 614,2 тыс. руб. адпушчаны ў форме пазык непасрэдна запазычнікам, а 327,1 тыс. руб. накіраваны на ўзмацненьне аснаўных капіталаў другіх арганізацый, маючых таксама канчатковай сваей мэтай доўгатэрміновае фінансіраваньне будаўніцтва, аказалася магчымым, дзякуючы пасьпяховай рэалізацыі ў справ. годзе акцый Банку.

Зварот Праўленьня, які пасьледаваў упачатку 1928/29 г. аб назрэўшай неабходнасьці ўзмацніць уласныя сродкі Банку, які ўхвален адпаведнымі інстанцыямі, сустрэў спачувальны водгук з боку зацікаўленых арганізацый, у выніку чаго мы атрымалі павялічэньне аснаўнога капіталу ў 1353,5 тыс., альбо ў 97,9%.

**Акцыянэры Банку па групам на 1-е кастрычніка 1929 г.**

| | На 1 X-28 г. | Проц | На 1 X-29 г. | Проц. |
|---|---|---|---|---|
| Акрвыканкомы (у тым ліку СНК і Гарсавет) | 1023300 | 74,0 | 2268400 | 82,9 |
| Дзяржпрамысловасьць | 19900 | 1,4 | 37300 | 1,4 |
| Дзяржгандаль | 32100 | 2,3 | 33700 | 1,2 |
| Іншыя дзяржворганы | 25000 | 1,9 | 26500 | 0,9 |
| Каапэрацыя: | | | | |
| Спажывецкая | — | — | 15100 | 0,6 |
| Саматужна-прамысловая | — | — | 37600 | 1,4 |
| Жыльлёвая | 22200 | 1,7 | 27700 | 1,0 |
| Іншая | 21500 | 1.6 | — | — |
| Крэдытные ўстановы | 48000 | 3,4 | 50800 | 1.8 |
| Прафсаюзныя арганізацыі | 187300 | 13,6 | 237000 | 8,8 |
| Іншыя | 3000 | 0,1 | 1700 | — |
| | 1382300 | 100 | 2735800 | 100 |

Яшчэ ў большай паступовасьці ідзе нарастаньне запаснага і рэзэрўнага капіталаў, якое вытвараецца за рахунак паступаючых у гэтые капіталы прапарцыянальных надбавак да намінальнай каштоўнасьці рэалізованых акцый і адлічэньняў з уласных памнажэньняў.

Па гэтым капіталам павялічэньне выразілась у 539,7 тыс. руб., альбо ў 150%.

Нельга не недаацэніваць значэньня дасягнутых пасьпехаў у галіне ўзмацненьня фінансавай базы Банку, якой зьяўляецца яго ўласныя сродкі. Аднак тая акалічнасць, што павялічэньне за справаздачны перыяд у сваім ахопе больш чым у два разы (106%) і дасягнуў да канца году салідңай сумы ў 3.673,7 тыс. руб., уласные сродкі Банку ў адносінах да агульнага балянсу складае ўсяго толькі 12,6%, сьведчыць аб тым, што разьвіцьцё зваротаў Банку выпярэджвае тэмп росту яго рэсурсаў

## Бягучыя рахункі і ўклады.

Центральнае мейсца сярод пасываў працягвае займаць уклады і бягучые рахункі. У працягу ўсяго перыяда мы наглядаем паступовае іх нарастаньне з захаваньнем сталага становішча іх удзельнае вагі ў балянсе да 1-га верасьня (13,6%). З гэтага часу крывая рэзка мяняецца ў бок павышэньня, як па абсалютнай суме, так і па ўдзельнай ваге. Акалічнасць гэта не можа быць аднесяна да зьявішч кан'юнктурнага парадку, а тлумачыцца, намнаженьнем на бягучым рахунку значных сум, якіе маюць сваім назначэньнем ўтварэньне спецыяльнага капіталу, для мэтавага крэдытаваньня, і падлягаюць пералічэньню на адпаведные рахункі.

## ЗБОРНАЯ ВЕДАМАСЬЦЬ

сродкаў па актыўным кароткатэрміновым камерцыйным апэрацыям па бягучым рахункам і ўкладам па групам кліентаў за 1928/29 год. (у тысячах рублёў)

| | Актыў. кароткатэр. камерц. апэрац. | | | | Бягучыя рахункі і ўклады | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сальда на 1-X 1928 г. | Абароты за год | | Сальда на 1-X 1929 г. | Сальда на 1-X 1928 г. | Абароты за год | | Сальда на 1 X 1929 г |
| | | Дэбэт | Крэдыт | | | Дэбэт | Крэдыт | |
| Дзяржпрамысловасьць | | | | | | | | |
| у тым ліку мясцовая . . . . . | 1626,0 | 9752,4 | 8062,7 | 3315,7 | 358,6 | 22280,9 | 22283.4 | 391,1 |
| Дзяржгандаль | | | | | | | | |
| у тым ліку мясцовы. . . . . | 75,2 | 289.2 | 302,9 | 61,5 | 23,1 | 3339,9 | 3376,2 | 59.4 |
| Выканкомы . . . . . . . . . | 446,4 | 2986,7 | 3091,5 | 341,6 | 306,3 | 6695,1 | 7064,3 | 675,5 |
| Мясцовы бюджэт . . . . . . . | — | — | — | — | 27,4 | — | — | — |
| Розн. Дзярж. адм. гасп. установы | | | | | | | | |
| у тым ліку прадпрыем. камун. | | | | | | | | |
| гаспадаркі . . . . . . . . | 1043,3 | 4998,2 | 5043,5 | 998,0 | 1223,8 | 17433,5 | 19008,3 | 2798,6 |
| Каапэрацыя: | | | | | | | | |
| Жыльлёвая . . . . . . . . | 277,0 | 1659,0 | 1565,2 | 370,8 | 74,6 | 3553,0 | 3682,0 | 203,6 |
| Спажывецкая . . . . . . . . | 5,0 | 1776.4 | 1781,4 | — | 2,9 | 3314,8 | 3322,5 | 10,6 |
| Саматужна-прамысловая і | | | | | | | | |
| працкалялктывы . . . . . . | 364,2 | 6075,2 | 5824,3 | 615,1 | 46,0 | 4148,4 | 4138.2 | 35,8 |
| Сельска-гаспадарчая . . . . . . | — | — | — | — | 31,2 | 134,0 | 134,6 | 31,8 |
| Прыватные асобы і фірмы . . . | 14,1 | 52,9 | 37,4 | 29,6 | 11,3 | 289,9 | 293,7 | 15,1 |
| Крэдытные ўстановы . . . . . | — | — | — | — | 130,8 | 13322,5 | 13843,2 | 651,5 |
| Іншые | | | | | | | | |
| у тым ліку праф. і грам. арган. | 152,2 | 732,8 | 726,7 | 158,3 | 117,5 | 3048,3 | 3226,1 | 295,3 |
| Разам | 4003,4 | 28322,8 | 26435,6 | 5890,6 | 2383,5 | 77560,3 | 80372,5 | 5168.3 |
| | | | | | — 27,4 | | | |
| | | | | | 2356,1 | | | |

1). Па балянсу на 1 X-29 г. сальда па актыўным апэрацыям, бягучым рахункам і ўкладам лічыцца крэдытовая астача па спэц. бягуч. рахунку пад вексалі 9,9.

2). З сальда на 1 X-28 г. па бягучым рахункам і ўкладам выключаецца 27,4 сродкі мясцовага бюджэту якія па балянсу вучытваюцца на асобовым рахунку бяг. рах. мясцов. бюджэту срод. мясцов. бюджэту.

## Кароткатэрміновыя актыўныя апэрацыі.

Вельмі інтэнсыўна працякае разьвіцьцё кароткатэрміновых актываў, як па лініі мэтавых крэдытаў, так і па лініі камэрцыйнага крэдытаваньня. Накіраваньне сродкаў па дзьвум галінам праходзіць у сумарных адносінах роўнамернымі часткамі па 1897 тыс. руб. на кожную. Тым ня меньш і ў гэтым пытаньні, пытаньні кароткатэрміновага крэдытаваньня, Праўленьне няўхільна прытрымліваецца ўзятай ім лініі на мэтавую ўстаноўку крэдытаў. Гэта знаходзіць сваё пацьвярдженьня ў факце роста ўдзельнае вагі мэтавых кароткатэрміновых пазык, які дасягае на 1 кастрычніка 1929 году 10,7 %, замест 6,3 % на 1-е кастрычніка 1928 г., у той час як удзельная вага камэрцыйных крэдытаў, негледзячы на іх сумарнае павялічэньне, падае з 21 % на 1-е кастрычніка 1928 году да 20 %, на 1 кастрычніка 1929 году. Яшчэ больш рэльефна адзначаецца тэмп разьвіцьця мэтавых пазык, калі мы возьмем суадносіны яго да ісходнай сумы; тут мы атрымаем коэфіцыент у 157,8 тады, як па камерцыйным крэдытам ён складае толькі 47,4.

Ніжэй мы прыводзім табліцу росту мэтавых крэдытаў па групам з паказаньнем агульнай запазчнасьці на 1-е кастрычніка 1929 году.

| | Рост | На % | Агульная запазыч. |
|---|---|---|---|
| Выканкомы . . . . . | р. 312,9 | 366,0 | 398,4 тыс |
| Жылкаапэрацыя . . . . | „ 225,6 | 48,0 | 699,7 „ |
| Індыв. забудовшч. . . . | „ 131,9 | 31,5 | 549,1 „ |
| Дзяржпрамыс. і гандаль . . | „ 1201,6 | 855,0 | 1342,1 „ |
| Камун. гаспадар. . . . . | „ 25,0 | 29,4 | 110,1 „ |
| | „ 1897,0 | | 3099,4 „ |

Тут да рэчы трэба будзе адзначыць, што мэтавыя крэдыты кароткатэрміновыя і доўгатэрміновыя сумесна ўзятыя, лічучы і сродкі, накіраваныя ў доўгатэрміновая мэтавыя крэдытаваньня ў форме набыцьця акцый будаўнічых арганізацый і крэдытных устаноў камунальнай сыстэмы, складае 21221,2 тыс. руб., альбо 77,9 % усіх продактываў, так што на апэрацыі камерцыйных крэдытаў падае ўсяго толькі 22,1 %.

### Зборная ведамасьць абаротаў па мэтавым пазыкам па групе кліентаў і мэтам.

| | Кароткатэрм. пазыкі | | | | Доўгатэрм. пазыкі | | | | УСЯГО | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сальда на 1-X 1928 г. | Абароты за год Дэбэт | Абароты за год Кр-дт | Сальда на 1-X 1929 г. | Сальда на 1-X 1928 г. | Абароты за год Дэбэт | Абароты за год Кр-дт | Сальда на 1-X 1929 г. | Сальда на 1-X 1928 г. | Абарот за год Дэбэт | Абарот за год Кр-дт | Сальда на 1-X 1929 г. |
| **І. На жыльлев. буд. і рамонт** | | | | | | | | | | | | |
| Выканкомы: на новае буд. | — | — | — | — | 1974,5 | 988,4 | 40,4 | 2922,5 | 1974,5 | 988,4 | 40,4 | 2922,5 |
| на рамонт | 85,5 | 599,9 | 287,0 | 398,4 | — | — | — | — | 85,5 | 299,9 | 287,0 | 398,4 |
| 2. Прамыслов: на новае. буд. | — | — | — | — | 395,0 | 412,9 | 31,9 | 776,0 | 395,0 | 412,9 | 31,9 | 776,0 |
| на рамонт | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3. Каапэрацыі: на новае буд. | 72,7 | 182,3 | 102,3 | 152,7 | 2877,5 | 1203,4 | 259,9 | 3821,0 | 2950,2 | 1385,7 | 362,2 | 3973,7 |
| на рамонт | 401,4 | 637,9 | 492,3 | 547,0 | 171,1 | 182,2 | 130,0 | 223,3 | 672,5 | 820,1 | 622,3 | 770,3 |
| 4. Індывід. забуд.: на нов. буд. | 68,5 | 131,4 | 143,5 | 56,4 | 24,0 | 6,3 | 10,1 | 20,2 | 92,5 | 137,7 | 153,6 | 76,6 |
| на рамонт | 348,7 | 565,6 | 421,6 | 492,7 | — | — | — | — | 348,7 | 565,6 | 421,6 | 492,7 |
| 5. Іншыя запазыч: на новае буд. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| на рамонт | 140,5 | 1746,1 | 544,5 | 1342,1 | — | — | — | — | 140,5 | 1746,1 | 544,5 | 1342,1 |
| | 1117,3 | 3863,2 | 1991,2 | 2989,3 | 5442,1 | 2793,2 | 472,3 | 7763,0 | 6559,4 | 6546,4 | 2463,5 | 10752,3 |
| **ІІ. На камун. гаспадарку** | | | | | | | | | | | | |
| 1) На вадаправоды | 77,4 | 53,9 | 80,8 | 50,5 | 265,2 | 34,3 | 96,3 | 203,2 | 342,6 | 88,2 | 177,1 | 253,7 |
| 2) Каналізацыя | — | — | — | — | 700,0 | 999,7 | 700,0 | 999,7 | 700,0 | 999,7 | 700,0 | 999,7 |
| 3) Электрастанцыя | — | — | — | — | 2148,1 | 4209,1 | 3054,7 | 3302,5 | 2148,1 | 4209,1 | 3054,7 | 3302,5 |
| 4) Мясц. трансп.-трамвай | — | — | — | — | 50,0 | 50,0 | 50,0 | 50,0 | 50,0 | 50,0 | 50,0 | 50,0 |
| 5) Будын. грамадзк. карыст. | 7,7 | 43,0 | 21,8 | 28,9 | — | — | — | — | 7,7 | 43,0 | 21,8 | 28,9 |
| 6) Іншыя | — | 45,7 | 15,0 | 30,7 | 3117,5 | 4791,0 | 3408,7 | 4499,8 | 3117,5 | 4836,7 | 3423,7 | 4530,5 |
| | 85,1 | 142,6 | 117,6 | 110,1 | 6280,8 | 10084,1 | 7309,7 | 9055,2 | 6365,9 | 10226,7 | 7427,3 | 9165,3 |
| **ІІІ На прамысловае будаўніцтва.** | | | | | | | | | | | | |
| 1) На новае будаўн. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 2) На рамонт і абстал. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| **ІV На іншыя мэты.** | | | | | | | | | | | | |
| Па мэтам і групам | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | 1202,4 | 4005,8 | 2108,8 | 3099,4 | 11722,9 | 12877,3 | 7782,0 | 16818,2 | 12925,3 | 16883,1 | 9890,8 | 19917,6 |

## Вучотна-пазычковыя апэрацыі.

Дамініруючае значэньне ў камэрцыйным крэдытаваньні займая апэрацыя па вучоту вэксалёў. За справаздачны перыяд прынята да вучоту 10748 вэксалёў на 16044,7 тыс. руб. Сярэдняя валюта вэксалю складае 1493 руб. пры абарачываемасьці капіталу ў 74 дні. У працягу ўсяго справаздачнага перыяду прымяняліся уніфіцыраваныя процантныя стаўкі, тожсамае з тымі, якія існавалі ў Дзяржбанку. Сярэдні гадавы разьмер процантаў выразіўся ў 81,19 %. Крэдытаваньне вытваралася па зацьверджаным пакрадральным крэдытным плянам і па асобным звышплянавым заданьням органаў, якія пляніруюць.

Наогул, выкананьне крэдытных плянаў, ня гледзячы на тое, што іх пабудаваньне базіравалась на вучоце максымальных фінансавых магчымасьцей, усёж у працэсе іх выкананьня не патрабавалась асобнага напружаньня.

Агульная сума сродкаў, зьмяшчоных у апэрацыі вучоту вэксалёў, складае на 1-е кастрычніка 1929 году 5621,9 тыс. руб.

У апэрацыях другога віду вэксальнага крэдыту як та: спэц. бягучыя рахункі пад вэксалі, вучот сола-вэксалёў і вучот даўгавых абавязацельств, зьмешчана 69 тыс. руб.

Падтаварныя крэдыты складаюць 137,2 тыс. руб., а крэдыты пад % % паперы—71,8 тыс. руб.

Усяго ў вучотна-пазычковых апэрацыях—5899,9 тыс. руб.

Ніжэйпамянёная табліца паказвае запазычнасьць на 1-е кастрычніка па групам і ступень яе нарастаньня за год:

| | Прырост за 1928-29 г. | % % | Запазычнасьць на 1 X-29 г. |
|---|---|---|---|
| 1. Дзяржпрамысловасьць . . | 1689,7 | 103.9 | 3315,7 |
| 2. Жылкаапэрацыя . . . . | 93,8 | 33,9 | 370,8 |
| 3. Працкалектывы . . . . | 260,8 | 71,6 | 624,4 |
| 4 Іншые . . . . . . | 21,6 | 13,0 | 187,9 |
| 5. Дзяржгандаль . . . . . | 13,7 | | 61.5 |
| 6. Выканкомы . . . . . . | 104,8 | | 341,6 |
| 7. Спажывец. каапэрац. . . | 5,0 | | — |
| 8. Дзярж. Гасп. Адм. арган. . | 45,3 | | 998,0 |
| | Р. 1897,1 | | 5899,9 |

З параўнаньня групавых табліц па абедзьвух галінах кароткатэрміновага крэдытаваньня мы наглядаем раней усяго зьмяненьне формы крэдытаваньня для Акрвыканкомаў. Так, пры скарачэньні вэксальнага крэдыту на 104,8 тыс. руб. мэтавы крэдыт павялічваецца на 312,9 тыс. руб. Але што больш за ўсё прыцягвае нашу ўвагу, гэта надзвычайны рост уладжэньняў у дзяржпрамысловасьць, выявіўшыйся ў 1201,6 руб. па мэтавым крэдытам і ў 1689,7 руб. па камэрцыйным крэдытам, ўсяго на 2891,3 тыс. р.

Гэта галіна народнае гаспадаркі ў сувязі з хуткім тэмпам індустрыялізацыі краіны патрабуе для ажыцяўленьня сваіх задач большых капіталаўлажэньняў. Няма нічога дзіўнага ў тым, што пераразьмяркаваньне сродкаў Банку ішло ў гэтым, імена, напрамку.

**Параўнальная табліца разьмяшчэньня капіталаў за 1928-29 г. па месяцам.**

| Род актыву / Даты на 1-е м-цау | Рэзэрвы | | %% папер. | | Вучотна-пазычков. апэрац. | | Мэтавыя пазыкі: З сродкаў Банку — Доўгатэрм. | | Мэтавыя пазыкі: З сродкаў Банку — Кароткатэрм. | | Мэтавыя пазыкі: З спэцыяльн. капіт. — Доўгатэрм. | | Мэтавыя пазыкі: З спэцыяльн. капіт. — Кароткатэом. | | Па рахун. з карэспад. | | Аддзялен. | | Імабільн. капітал | | Іншыя актывы | | Вынікі | | Мясцовы бюджэт | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Кастрыч. | 323,4 | 1,7 | 2,5 | — | 4003,3 | 21,0 | 789,2 | 4,1 | 1202,5 | 6,3 | 11147,0 | 58,3 | — | — | 216,6 | 1,1 | 632,3 | 3,3 | 781,0 | 4,1 | 15,9 | 0,1 | — | — | — | — |
| Лістападу | 265,8 | 1,4 | 5,0 | — | 3930,9 | 20,4 | 843,6 | 4,4 | 1207,7 | 6,3 | 11298,9 | 58,6 | — | — | 283,5 | 1,5 | 587,6 | 3,0 | 834,2 | 4,3 | 6,8 | — | 23,3 | 0,1 | — | — |
| Сьнежня | 345,0 | 1,7 | 4,7 | — | 4092,8 | 20,6 | 898,3 | 4,5 | 1414,3 | 7,1 | 11386,7 | 57,2 | 87 | 0,4 | 195,0 | 1,0 | 484,8 | 2,4 | 837,8 | 4,2 | 8,6 | 0,1 | 47,0 | 0,2 | 126,0 | 0,6 |
| Студзеня | 144,5 | 0,7 | 27,1 | 0,1 | 4233,2 | 20,1 | 905,4 | 4,3 | 1452,0 | 6,9 | 11519,9 | 54,7 | 283 | 1,4 | 190,2 | 0,9 | 1266,3 | 6,0 | 838,3 | 4,0 | 12,6 | 0,1 | 111,6 | 0,5 | 71,4 | 0,3 |
| Лютага | 368,4 | 1,7 | 28,7 | 0,1 | 4488,5 | 20,7 | 765,1 | 3,5 | 1592,7 | 7,3 | 11395,7 | 52,5 | 300 | 1,4 | 257,5 | 1,2 | 1466,0 | 6,8 | 838,0 | 3,9 | 16,4 | 0,1 | 137,7 | 0,6 | 41,4 | 0,2 |
| Сакавіка | 309,4 | 1,4 | 75,7 | 0,3 | 5124,1 | 23,0 | 846,6 | 3,8 | 1167,7 | 5,2 | 12072,4 | 54,3 | — | — | 217,0 | 1,0 | 1391,0 | 6,2 | 838,2 | 3,8 | 16,4 | 0,1 | 164,3 | 0,7 | 40,0 | 0,2 |
| Красавіка | 250,8 | 1,1 | 123,6 | 0,6 | 5526,5 | 25,2 | 835,4 | 3,8 | 1138,6 | 5,2 | 11269,7 | 51,3 | — | — | 205,6 | 0,9 | 1430,4 | 6,5 | 839,3 | 3,8 | 10,4 | 0,1 | 248,0 | 1,1 | 96,8 | 0,4 |
| Мая | 325,4 | 1,4 | 128,5 | 0,6 | 5167,2 | 22,3 | 983,2 | 4,2 | 906,3 | 3,9 | 12514,8 | 54,1 | — | — | 140,4 | 0,6 | 1491,7 | 6,4 | 1115,5 | 4,8 | 11,2 | 0,1 | 269,2 | 1,1 | 118,0 | 0,5 |
| Чэрвеня | 332,8 | ,4 | 119,4 | 0,5 | 5025,5 | 21,1 | 1144,6 | 4,8 | 1239,2 | 5,2 | 13445,5 | 56,3 | — | — | 305,3 | 1,3 | 810,2 | 3,4 | 1113,8 | 4,7 | 13,8 | 0,1 | 297,7 | 1,2 | 6,0 | — |
| Ліпеня | 585,0 | 2,3 | 120,4 | 0,5 | 4853,7 | 19,2 | 1266,4 | 5,0 | 1651,0 | 6,5 | 13985,5 | 55,3 | — | — | 140,7 | 0,6 | 1203,0 | 4,8 | 1117,1 | 4,4 | 11,6 | 0,1 | 363,1 | 1,3 | 4,1 | — |
| Жніўня | 331,3 | 1,3 | 94,4 | 0,4 | 4772,7 | 18,6 | 1276,7 | 5,0 | 1983,5 | 7,7 | 14444,4 | 56,2 | — | — | 166,6 | 0,6 | 1099,3 | 4,3 | 1118,1 | 4,4 | 11,3 | — | 391,6 | 1,5 | — | — |
| Верасьня | 892,9 | 3,1 | 105,7 | 0,4 | 6005,9 | 21,0 | 1328,3 | 4,7 | 2452,7 | 8,6 | 14886,0 | 52,1 | — | — | 557,4 | 2,0 | 781,7 | 2,7 | 1117,8 | 3,9 | 11,5 | — | 431,9 | 1,5 | 5,5 | — |
| Кастрыч. | 435,7 | 1,5 | 106,4 | 0,4 | 5899,9 | 20,3 | 1403,4 | 4.8 | 3099,4 | 10,7 | 15629,5 | 53,7 | — | — | 252,6 | 0,9 | 1114,3 | 3,8 | 1115,2 | 3,8 | 20,2 | 0,1 | — | — | 0,4 | — |

## Фондавы аддзел.

Вялікай важнасьці задачай-прыцягваньня ашчады працоўных у справу індустрыялізацыі, патрабавала з боку Праўленьня прыняцьця цэлага шэрагу мерапрыемств, накіраваных у бок распаўсюджваньня дзяржаўных пазык, для правядзеньня якіх быў створан асобы фондавы аддзел.

У задачы аддзелу ўваходзіла ня толькі тэхнічнае абслугоўваньне кліентуры, але і вядзеньне растлумачыцельнай работы пры дапамозе грамадзкасьці тых арганізацый, якія зьвязаны па роду сваёй дзейнасці з Банкам. За мінулы перыяд рэалізавана па падпісцы 600.000 руб.

Для забясьпячэньня ліквіднасьці дзяржпазык банкам вытваралась набыцьцё і продаж % % папер. Пры чым за справаздачны год набыта на 257,6 тыс. руб., продана 153,7 тыс. руб. Для здавальненьня патрабаваньня ў партфэлі Банку знаходзіцца на 1 кастрычніка 1929 году %% папер 106,4 тыс. руб. Пазык пад %% паперы выдана ў 1928/29 годзе 95,4 тыс. руб., пагашана за гэты час 38 тыс. р. Застаецца на 1 кастрычніка 71,8 тыс. р. Процэнтных папер, прынятых на хаваньне з кіраўніцтвам, лічыцца ў партфэлі 50 000 руб.

Для гэтае жэ мэты, прыцягваньня ашчады, пры Банку ўтворана прыпісная ашчадкаса, якая абслугоўваецца апаратам Банку.

## Фінансавыя вынікі

Пераходзячы да разгляду пытаньня аб тым, як адбілася накіраваньне дзейнасьці Банку на яго фінансавыя вынікі, трэба адзначыць, што, атрымаўшыя шырокае разьвіцьцё касаваразрахуначныя і фондавыя аперацыі, само па сабе, у сэнсу рэнтабельносці, не прадстаўляюць ніякай зацікаўленасьці. Уведзя гэтыя апэрацыі ў кола дзейнасці Банку, Праўленьне мела на ўвазе часткова гэтым шляхам дапамагаць згрупаваньню ў Банку распыленых сродкаў кліентуры. У гэтым сэнсу прароблены намі вопыт дае вынік станоўчы. Разьвіцьцё апэрацый па касаваму абслугоўваньню і безграшовым разрахункам спрыяла пасіленаму ўзрастаньню зваротаў, не ўчыняя, урэшце, уплыву на рост прад'актываў. Дзякуючы гэтаму нам, нягледзячы на некаторае павялічэньне адміністрацыйных выдаткаў, выклікана ўтвареньнем новых аддзелаў, удалось панізіць каафіцыент накладных выдаткаў да звароту з 0,430 руб. у 1927/28 г. да 0,323 руб. на кожныя 1000 руб. Між іншым як у працэнтнай адносіне да прад'актываў мы маем толькі незначнае зьніжэньне з 0,46 % у 1927/28 годзе да 0,44 %. Аднак гэтыя паказацелі не зьяўляюцца рашучымі, паколькі намі не вучцено скарачэньне выдаткаў па ўтрыманьню касавых апаратаў тых арганізацый, абслугоўваньне якіх Банк прыняў на сябе.

Прыбытак за 1928/29 апэрацыйны год складае 193037,51 руб. больш супроць мінулага году на 10827,56 руб.

**Праўленьне.**

# ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

## Рэвізійнай Камісіі Белкамунбанку сходу акцыянэраў аб дзейнасьці Банку за 1928-29 год.

1. Пры праверцы Рэвізыйнай Камісіяй балянсу Банку на 1 кастрычніка 1929 году ўстаноўлена, што апошні складзен правідлова і адпавядае кніжным запісам Праўленьня Банку.

2. Грашовыя сродкі і іншыя каштоўнасьці, якія лічацца на бягучых рахунках Праўленьня, а таксама ў карэспандэнтаў, падцьверджаны выпіскамі і дакумэнтамі.

3. Каштоўныя паперы і паі расцэнены па курсу на 1 кастрычніка 1929 году.

4. Выведзены прыбытак банку за 1928-29 год у суме 193.037 руб. 51 кап. Рэвізыйнае Камісія лічыць правідловай.

5. Як станоўчыя бакі працы Банку, Рэвізыйная Камісія адзначае, што дырэктывы дадзеныя сходам акцыянэраў ад 23 лютага 1929 году аб далейшым разгортваньні крэдытаваньня рабочага жылбудаўніцтва і мясцовай прамысловасьці, аб узмацненьню кантролю над правільным і мэтазгодным скарыстаньнем адпускаемых крэдытных сродкаў Банкам выконваліся.

6. Наколькі разгарнулася дзейнасьць Банку за справаздачны пэрыяд у сэнсе пашырэньня вучотна-пазычковых апэрацыяў сьведчыць рост звароту Банку на 104 проц. дасягнуўшага сумы ў 356.726 тыс. рублёў.

Адначасова Рэвізыйная Камісія адзначае неабходнасьць павялічэньня аснаўнога капіталу Банку, што дыктуецца ўзрастаючым патрабаваньнем народнай гаспадаркі.

7 Рэвізыйная Камісія адзначае нармальнасьць адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў і імкненьне Праўленьня да скарачэньня іх (эканомія ў 2.588 р. 83 кап.).

8. Выкананьне пляну доўгатэрміновых крэдытаў Рэўкамісія лічыць нармальным і адпавядаючым дырэктывам Урадавых ворганаў.

Адзначаючы вышэйсказанае Рэўкамісія прапануе сходу акцыянэраў наступнае:

1) Справаздачу Банку за 1928-29 г. зацьвердзіць.

2) Узьняць пытаньне перад адпаведнымі ворганамі аб павялічэньні асноўнага капіталу Банку ў адпаведнасьці з патрэбамі народнай гаспадаркі.

3) З мэтаю ўзмацненьня кантролю над правільным скарыстаньнем адпускаемых сродкаў.

Рэўкамісія лічыць неабходным устанаўленьне Праўленьнем прасьцейшых форм справаздачнасьці кліентуры па скарыстаньні адпускаемых на будаўніцтва сродкаў, як у працэсе будаўніцтва, так і на яго сканчэньні.

4) Прапанаваць Праўленьню не паслабляць працы па рацыяналізацыі працы і памяншэньню адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў.

**Рэвізійная Камісія.**

---

# ПАСТАНОВА

## Савету Белкамунбанку па дакладу Праўленьня аб дзейнасьці за 1928-29 г.

1. Заслухаўшы і абмяркаваўшы даклад ПраўленьняБанку, аб дзейнасьці за 1928-29 год, Савет Банку лічыць праведзеную працу здавальняючай і адпавядаючай дадзеным Саветам дырэктывам.

2. Адзначыць, што зацьверджаныя Урадам БССР крэдытныя пляны (кароткатэрміновыя квадравыя і доўгатэрміновыя) на 1928-29 г. выкананы своечасова і поўнасьцю.

3. Канстантаваць, што ў Банку на 1-е кастрычніка 1929-30 г. засталася частка невыкарыстованых доўгатэрміновых сродкаў, дзякуючы не своечасоваму прадстаўленьню Акрвыканкомамі і іх прадпрыемствамі прамяжутачнай справаздачнасьці і дзякуючы ўзмацненьню з боку Банку фінансавага кантролю за выдаткаваньнем адпушчаных сродкаў.

4. Адзначыць, што на працягу 1928/29 году Праўленьне Банку поўнасьцю выканала дырэктыву Савету Банку аб зьніжэньні процантных ставак, па вучотнапазыковым апэрацыям, даводзючы гэтакія да ўзроўню ставак Дзяржбанку.

5. Адзначыць, як дасягненьне тое, што Банк сумеў дабіцца ліквідацыі самастойнага існаваньня БДК і передачы Белкамунбанку выкананьня яго функцый, што вопыт гэтай перадачы сябе апраўдаў, а таксама што ўзаемаадносіны Прамбанку з Белкамунбанкам палепшыліся.

9. У мэтах павялічэньня крэдытаваньня жылішчнага будаўніцтва камунальнай гаспадаркі і мясцовай прамысловасьці, даручыць Праўленьню Банку ўзьняць перад Саветам Народных Камісараў БССР пытаньне аб павялічэньні ў 1929-30 годзе аснаўнога капіталу Банку.

7. Даручыць Праўленьню імкнуцца ў далейшым паменьшыць коэфіцыент адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў.

8. Справаздачу Банку за 1928-29 г. зацьвердзіць з прыбыткам у 193037,51 руб.

У сувязі з надрукаваным дэкрэтам ЦВК і СНК СССР аб зьмене ставак прыбытковага падатку разьмяркаваньне прыбыткаў адкласьці да наступнага пасяджэньня Савету Банку.

9. Канстатуя значнае палепшэньне суадносін паміж доўгатэрміновым і кароткатэрміновым крэдытаваньнем у балянсе Банку, усёж лічыць патрэбным прыняць захады да большай переваі ў балянсе доўгатэрміновых сродкаў.

Старшыня Савету **Бенек.**

Сакратар **Вайн.**

